*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 49 (684)** **15 СНЕЖНЯ 2004 г.**

## Адсюль пачыналася вывучэнне гісторыі Беларусі

11 снежня ў Радуні Воранаўскага раёна прайшла Навукова гістарычна-краязнаўчая канферэнцыя "З гісторыі краю і лёсаў людзей Воранаўшчыны", арганізаваная Воранаўскім раённым выканаўчым камітэтам, аддзелам археалогіі Інстытута гісторыі НАН Рэспублікі Беларусь, кафедрай гісторыі Беларусі ГрДУ імя Я. Купалы і Гарадзенскім абласным ды Воранаўскім раённым аддзяленнямі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.



Канферэнцыя была прымеркаваная да 220-х угодкаў з дня нарадзінаў бацькі беларускіх гісторыкаў Тодара Нарбута і 152-х угодкаў з дня нарадзінаў беларускага археолага, антраполага і краязнаўца Вандаліна Шукевіча.



На канферэнцыі прагучала шмат цікавых і змястоўных дакладаў пра людзей, нараджэннем ці лёсам звязаных з Воранаўшчынай: Тодара Нарбута, Станіслава Юндзіла, К. Падчашынскага, Ц. Кандратовіча, Яна Траяноўскага. Усе даклады на канферэнцыі былі зроблены па-беларуску.

Непасрэдна перад канферэнцыяй была закончана рэстаўрацыя родавай усыпальніцы роду Юндзілаў, на якую з бюджэту раёна выдаткавана 18 мільёнаў рублёў.

Гісторыкі ўсклалі кветкі да помніка Тодару Нарбуту ў Начы, наведалі Нацкі касцёл.

*Станіслаў Суднік.*

**На здымках:** 1. Беларускія гісторыкі і краязнаўцы ля магілы Тодара Нарбута ў Начы; 2. Удзельнікі канферэнцыі ля рэстаўраванай капліцы (усыпальніцы) роду Шукевічаў на Нацкіх могілках, дзе пахаваны Вандалін Шукевіч.

## Рада ТБМ у Менску



12 снежня ў Менску адбылося паседжанне Рады ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

На Радзе прайшла спакойная і зацікаўленая гаворка пра стан нашай мовы і праблемы ТБМ.

Рада падвяла вынікі дзейнасці Таварыства ў 2004 годзе і зацвердзіла план дзейнняў на 2005 год. Была разгледжана праца камісій ТБМ, і дзейнасць часткі з іх часова прыпынена. Разгледжана пытанне аб сяброўскіх складках і сітуацыя вакол газеты "Наша слова", у першую чаргу стан падпіскі на газету.

Па ўсіх разгледжаных пытаннях прынчты адпаведныя пастановы, якія будуць надрукаваныя ў наступным нумары "Наша слова". Даклад старшыні ТБМ Алега Трусава чытайце на ст. 2-3.

*Станіслаў Суднік.*

**На здымку:** На паседжанні Рады ТБМ выступае акадэмік Радзім Гарэцкі.

## Мой пачын: "Наша слова" – у кожную школу

Мне стала вядома, што ў Докшыцкім р-не Віцебскай вобл. (мая радзіма) газету "Наша слова" выпісвае толькі мая пляменніца, настаўніца фізкультуры Круляўшчынскай СШ Ала Русалоўская Высвятлілася, што ў школах раёна не чытаюць газеты, бо не выпісваюць.

Я папрасіў у сваім лісце Алу Русалоўскую, каб за мой разлік выпісала газету "Наша слова" для Параф'янаўскай СШ у якасці падарунка, бо я яе выпускнік. Таксама прапанаваў выпісаць свайму пляменніку Генадзю Гілю газету для Сітцайскай СШ (ён выпускнік), а сыну Гілю Дзіму для Лашанскай СШ і г.д. Магчыма мой пачын падтрымаюць і іншыя, бо "Наша слова" павінна быць у кожнай школе, гэтая газета патрэбная ўсім.

*Юры Гіль, старшыня ТБМ Віленскага краю.*

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

На 2005 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

**НАША СЛОВА** (назва выдання)

Кошт: падпіскі **4020** руб.; пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2005 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## КАХАНАК ЯЕ ВЯЛІКАСЦІ

**У ПЯТНІЦУ, 17 СНЕЖНЯ**

АДБУДЗЕЦЦА ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ ГІСТАРЫЧНАЙ ПРОЗЫ УЛАДЗІМІРА АРЛОВА

"КАХАНАК ЯЕ ВЯЛІКАСЦІ"

**УДЗЕЛ БЯРУЦЬ СЯБРЫ І КАЛЕГІ ПІСЬМЕННІКА**

СПЯВАЮЦЬ БЕЛАРУСКІЯ БАРДЫ

ЖЫВЫ АЎТАР ДАЕ АЎТОГРАФЫ

ПАЧАТАК А 18 ГАДЗІНЕ Ў ВЯЛІКАЙ ЗАЛЕ ДОМА ЛІТАРАТАРА
(вул. Фрунзе, 5)
УВАХОД ВОЛЬНЫ



## ЛЕТАПІС ТАВАРЫСТВА

*Падрыхтавала Ірына Марачкіна*

*(Працяг. Пач. у пап. нум.)*

**2000 год.**

**Снежань.**
Магілёўская абласная арганізацыя ТБМ выпусціла кішэнны каляндарык на 2001 і 2002 гг., у якім пазначаны імёны, што складаюць гонар беларускай гісторыі, знакавыя даты беларускай гісторыі: святочныя, горычныя, змрочныя. Выкарыстаны творы мастака Базыля Камарова, макет Міхася Булавацкага і Андруся Слуцкага.

**2001 год.**

**27 студзеня.**
У сядзібе ТБМ адбылося першае паседжанне рабочай групы па падрыхтоўцы "Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі". Разгледжаны напрацоўкі Магілёўскай, Лідскай, Светлагорскай арганізацый ТБМ.

**3 лютага.**
У тэатральнай зале касцёла Святых Сымона і Алены адбылося паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ.

Прынятыя пастановы: "Аб правядзенні 20 траўня чарговага VII з'езду ТБМ ", "Аб прапановах па вылучэнні на VII з'езд кандыдатур у склад новай Рады", "Аб выпрацоўцы Стратэгіі абароны і развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі".

**15 лютага.**
Па просьбе Менскага заапарка сакратарыят прыняў рашэнне аб утрыманні рысі, якой, як іншым жывёлам, не хапала харчавання. Па рашэнні сакратарыята вырашана штомесячна выдаткоўваць з ахвяраванняў, па магчымасці, пэўную суму грошай на выжыванне гэтага звера.

**16 лютага.**
У сядзібе ТБМ прайшлі першыя заняткі гістарычнага семінара на тэму "Рагнеда і Ізяслаў" з удзелам Алеся Петрашкевіча, Алега Трусава, Уладзіміра Арлова.

**21 лютага.**
У сядзібе Таварыства Менская гарадская арганізацыя ТБМ наладзіла прэс-канферэнцыю, прысвечаную міжнароднаму Дню роднай мовы.

**25 лютага.**
Разам з Цэнтрам па правах чалавека праведзена навукова-практычная канферэнцыя "Нацыянальная ідэя: шляхі кансалідацыі грамадства".

*(Працяг у наст. нумары.)*

# Справаздачны даклад Старшыні ТБМ Алега Трусава аб працы за 2004 год на паседжанні Рады 12 снежня 2004 г.

2004 год увойдзе ў гісторыю Таварыства як юбілейны. Споўнілася 15 гадоў з тае пары, калі 27 чэрвеня 1989 года адбыўся Устаноўчы сход, а 28 верасня было зарэгістраванае Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". Добрай памяткай пра 15 угодкі застанецца адмысловы канверт, выпушчаны Таварыствам, ды напісанне летапісу, які мяркуецца выдаць асобнай кніжкай. Юбілейнай даце было прысвечана ўрачыстае паседжанне сакратарыята, выстава плаката Уладзіміра Крукоўскага ў сядзібе ТБМ. У "Нашым слове" надрукаваны ўрывак "Ад ідэі да заснавання" з неапублікаванай кнігі Ніла Гілевіча "Між роспаччу і надзеяй". 3 нагоды юбілею 29 верасня гэтага года зладжаная вечарына-канцэрт беларускай бардаўскай песні.

Трэба адзначыць, што напачатку года нам было не да юбілею: навісла рэальная пагроза пазбаўлення арганізацыі памяшкання па вул. Румянцава, 13. Як вядома, нашае змаганне з уладнымі структурамі закончылася перамогай і, што прыемна, засведчыла згуртаванасць і актыўнасць сяброў у цяжкі для Таварыства час. Напрыканцы сакавіка мы атрымалі афіцыйны ліст за подпісам главы адміністрацыі Партызанскага раёна Менска П. Сямашкі аб працягу тэрміну арэнды да 4 лютага 2005 г. Тэрмін гэты, як сказана ў лісце, дадзены Таварыству дзеля таго, каб падшукаць іншае памяшканне. Час няўмольна набліжае нас да гэтай даты. І сёння мы павінны сур'ёзна задумацца і выказаць сваё меркаванне аб тым, як дзейнічаць, калі паўторыцца леташняя сітуацыя? У мяне, найперш, спадзяванне на мудрасць ветэранаў ТБМ і энергію маладых сяброў, на свежыя сілы, якія папоўнілі нашыя шэрагі ў 2004 годзе. У асноўным гэта нацыянальна свядомая моладзь, якая прымае актыўны ўдзел у жыцці Таварыства, у выкананні яго планаў.

Нягледзячы на спробы мясцовай гарадской улады выбіць з-пад нас актыўную жыццёвую пазіцыю, уцягнуўшы ў працяглую валакіту з памяшканнем, мы маем на канец года пэўныя вынікі сваёй працы, якія паспрабую падсумаваць у сваім выступленні. Зазначу, што, як і заўсёды, ТБМ плануе сваю працу ў адпаведнасці з статутнымі мэтамі і кірункамі, вызначанымі Стратэгіяй дзейнасці Таварыства па развіцці беларускай мовы ў XXI стагоддзі. Галоўным апірышчам у дзейнасці Таварыства з'яўляюцца законы. На жаль, яны не заўсёды адпавядаюць Канстытуцыі краіны, а родная мова не ёсць пакуль дзяржаўным клопатам. Таму Таварыства ўпарта дамагаецца ад улады зменаў у той ці іншы закон. Хутка міне 2 гады з таго часу, як былі распрацаваныя і дасланыя ў заканатворчыя органы прапановы ў праект "Закона аб мовах". Мы атрымалі шэраг лістоў, у тым ліку з Нацыянальнага цэнтра законапрэктнай дзейнасці пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь і Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, у якіх паведамляецца аб тым, што нашы прапановы па ўдасканаленні прававога рэгулявання ўжывання беларускай і рускай моў у розных сферах грамадскага жыцця будуць улічаны пры падрыхтоўцы праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь", "Аб мовах у рэспубліцы Беларусь". На жаль, праект закона, падрыхтаваны камісіяй, да гэтага часу не быў ўнесены ў парадак дня сесіі ні ўвосень 2003 г., ні ў 2004 годзе. На нашу просьбу даслаць праект закона для азнаямлення нам адказалі, што ён не прайшоў працэдуры ўзгаднення і па гэтай прычыне не можа быць накіраваны Таварыству. А яго абмеркаванне плануецца ў 2005 годзе.

У сувязі з тым, што пасля выбараў 17 кастрычніка да працы прыступіў новы склад дэпутатаў, былі накіраваны персанальныя лісты тым сябрам Палаты прадстаўнікоў, якія, на наш погляд, могуць падтрымаць прапановы Таварыства пры абмеркаванні законапраекта. Прыемнай неспадзяванкай быў ліст Канстытуцыйнага Суда, накіраваны ў Палату прадстаўнікоў амаль адначасна з нашымі. У гэтым лісце Канстытуцыйны суд нагадвае, што ў сувязі з новым складам Палаты прадстаўнікоў, ён паўторна дасылае сваё рашэнне ад 4. 12. 2003 г. з прапановай аб неабходнасці ўдасканальвання Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" з мэтай прыняцця на заканадаўчым узроўні мер па забеспячэнні роўнасці дзяржаўных моў — беларускай і рускай.

Не выконваецца ўладнымі структурамі Пастанова Мінадукацыі № 48 "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі". Пра гэта сведчыць скарачэнне набору ў беларускамоўныя класы па ўсёй краіне. Толькі Берасцейкі аблвыканкам даслаў нам ліст, у якім, апроч іншага, паведамляе, што ўпраўленню адукацыі воб-ласці даручана "спыніць скарачэнне колькасці школ з беларускай мовай навучання, пашырыць практыку справаводства па-беларуску на ўсе ўстановы адукацыі вобласці, прыступіць да прапрацоўкі пытання аб стварэнні беларускамоўных вучэбных груп, адззяленняў беларускай мовы ў педагагічных, сярэдніх спецыяльных навучальных установах з перспектывай такога пераходу ва ўстановах тэхнічнага профілю". На жаль, пакуль што, афіцыйных дадзеных пра колькасць беларускіх школ і класаў на пачатак 2004 — 2005 гг. мы не маем. Няма іх яшчэ і ў Міністэрстве адукацыі.

У мінулым 2003 годзе прыпыніліся нашыя стасункі з Дзяржстандартам. Гэта здарылася пасля таго, як яго кіраўніцтва адмовілася прыняць рашэнне аб абавязковым выкарыстанні дзвюх моваў на этыкетках і ўпакоўках прамысловых і прадуктовых тавараў. Каб пашырыць беларускае слова на спажывецкім рынку мы лістуемся непасрэдна з вытворцамі, якія пераарыентоўваюцца да беларушчыны. У сваіх лістах мы падтрымліваем іх, даем парады, дасылаем пераклады назваў і тэкстаў, абгрунтоўваем ролю роднага слова ў пашырэнні рынку збыту тавараў, у падвышэнні папулярнасці прадпрыемства. Пішам пра гэта ў "Нашым слове" і іншых газетах. Абнадзейвае, што сярод вытворцаў шмат такіх, якія горнуцца да роднага слова, пачынаюць разумець ролю беларускай мовы ў спажывецкай сферы. Апошнім часам да нас па дапамогу зрабіць пераклады звярнуліся вытворцы пральнага парашку і кандытарская фабрыка "Слодыч". Перамены ў лепшы бок адбываюцца і зверху. На прэс-канферэнцыі, якая праходзіла ў Менску 18 лістапада, галоўны тэхнолаг канцэрна "Белдзяржхарчпрам" Галіна Панаскіна не пагадзілася з вытворцамі кандытарскіх фабрык "Спартак" і "Камунарка", якія лічаць, што выкарыстанне беларускай мовы у назвах кандытарскіх вырабаў дрэнна ўспрымаецца на расійскім рынку, зніжае попыт на прадукцыю. Яна заявіла, што "ў асартыменце прадукцыі павінны быць і назвы на беларускай мове. Гэта загад канцэрна".

Вынікам шматгадовай працы Таварыства ў сферы асваення інфармацыйных тэхналогіяў з'явіўся пераклад на беларускую мову абалонкі для стварэння курсаў дыстанцыйнага навучання на аснове праграмы Moodle, аўтарам якой з'яўляецца аўстраліец. Пераклад праграмы Moodle зроблены намеснікам старшыні ТБМ Сяргеем Кручковым. Гэтая праграма можа з'явіцца добрым падмуркам для стварэння любых інтэрнэтрэсурсаў, прыдатных для арганізацыі навучання на адлегласці, у тым ліку і ў працы паўнавартаснага Беларускага Нацыянальнага Універсітэта з дыстанцыйнай формай навучання. Усім, хто жадае стварыць адукацыйны дыстанцыйныя рэсурсы па-беларуску, раю звярнуцца да Сяргея Кручкова.

Таксама з ініцыятывы і пры непасрэдным удзеле Сяргея Кручкова створана праграма праверкі арфаграфіі "Літара 1.0". Гэта плён працы калектыву навукоўцаў, мовазнаўцаў і практыкаў, які стаўся рэальнасцю, дзякуючы ахвярнай працы навуковага супрацоўніка Інстытута электронікі НАН Беларусі Фёдара Піскунова, якому належыць тэхнічная рэалізацыя праграмы, а таксама сяброў і прыхільнікаў ТБМ Югасі Валкавец, Зміцера Саўкі, прафесара Генадзя Цыхуна, Уладзіміра Кошчанкі, Сяргея Шупы, Юрася Бушлякова, Зміцера Санько. Прэзентацыя гэтай першай у Беларусі прафесійнай праграмы адбылася 14 траўня ў Цэнтры беларускай культуры і мовы Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта. На сённяшні дзень гэтую праграму на бязвыплатнай аснове атрымалі каля 100 карыстальнікаў, якія звярнуліся да нас пасля прэзентацыі. "Літара 1.0" даступная для ўсіх жадаючых, бо яе можна перапісаць на свой кампутар з інтэрнэту.

Колькі слоў аб працы па пашырэнні беларускай мовы ў электронных СМІ. Праца гэтая хоць і руцінная, але неабходная. Цягам апошніх гадоў мы лістуемся з кіраўнікамі FM-станцый, Беларускага тэлебачання, Міністэрства інфармацыі, арганізавалі збор подпісаў грамадзян на імя старшыні Белтэлерадыёкампаніі пад зваротам, у якім патрабавалі спыніць дыскрымінацыю, адназваць навіны на беларускай мове, пашырыць вяшчанне на роднай мове. Дарэчы, і да гэтага часу збор подпісаў працягваецца. Цяпер ён зыходзіць з ініцыятывы шараговых сяброў ТБМ і не мае такіх маштабаў, як на пачатку акцыі.

Сёлета ў эфіры FM-станцый часцей загучала беларуская песня. Загучала яна і па загаду ўладных структураў. Нядаўна ў Міністэрстве інфармацыі адбылося паседжанне з удзелам кіраўнікоў FM-станцыяў, дзе абмяркоўвалася пытанне пра выкананне наказу кіраўніка краіны, каб удзельная вага беларускай песні на радыё складала аж 75 %.

З удзелам першага намесніка старшыні ТБМ Людмілы Дзіцэвіч (у якасці рэдактара) і сябра Таварыства Юліі Дзіцэвіч (вядоўца) на канале БТ "ЛАД" у праграме "БУМ" ёсць 3-хвілінная перадача "Гаворым па-беларуску", а таксама 4-хвілінная перадача "Народныя традыцыі", якія можна пабачыць штопанядзелак і штočацвер адпаведна. Апроч таго, Людміла Дзіцэвіч падрыхтавала групу вядоўцаў (8 чалавек), дзяцей 9-14 гадоў. На жаль, тэлевізійшчыкі, як правіла, не зважаюць на нашы звароты. "Навіны" па-ранейшаму чытаюць па-беларуску толькі на канале "ЛАД", а праграма "БУМ" сёлета перакладзеная на рускую мову, акрамя 2-х згаданых перадач у яе складзе.

Каб падтрымліваць незалежную прэсу сакратарыят прыняў заявы ў абарону "Рэгіянальнай газеты", беластоцкай "Нівы", якім пагражала ліквідацыя з боку ўладных структураў. Акрамя гэтага, арганізаваны збор подпісаў пад заявай на імя пасла Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь аб захаванні "Нівы". І 10 снежня быў атрыманы грунтоўны адказ амбасады, які будзе надрукаваны ў "Нашым слове".

Цягам году працягвалася праца па пашырэнні роднага слова на транспарце. У выніку гэтай працы метро загаварыла пабеларуску. Супрацоўнікі метрапалітэна сустрэліся непасрэдна з старшынём ТБМ Алегам Трусавым па пытаннях перакладу інфармацыйнага тэксту.

Усе мы – сведкі таго, што беларуская мова заняла пэўнае месца і на чыгуначным транспарце. А пачыналася ўсё з таго самага ліставання. Напачатку нашыя запыты кіраўніцтва Беларускай чыгункі сустракала ў штыкі. Адрабілася ад нас стандартнымі адпіскамі да тае пары, пакуль мы не арганізавалі збор подпісаў грамадзян, пасажыраў, якія карыстаюцца чыгункай. Пасля гэтага кіраўніцтва Беларускай чыгункі папрасіла зрабіць пераклад назваў станцый і абвестак з рускай мовы на беларускую. Дарэчы, у перакладах назваў станцый удзельнічаў Інстытут мовазнаўства НАН Беларусі. Ад сакратарыята гэтую працу выканалі Кручкоў і Марачкіна. Дарэчы, у адным з лістоў кіраўніцтва Беларускай чыгункі папрасіла нас спыніць шквал подпісаў у іхні адрас.

Дзякуючы зваротам Таварыства ў аблвыканкамы краіны, праязныя білеты на гарадскі транспарт па-беларуску з'явіліся ў Горадні. Брэсцкі, Віцебскі, Гомельскі і Магілёўскі выканкамы запланавалі выраб праязных дакументаў на беларускай мове з 2005 года або па меры выкарыстання запасаў рускамоўнага варыянту.



Мы звярнулі ўвагу Менскага гарвыканкама на мову білетаў грашова-рэчавай латарэі "Сталіца". У адказ нам паведамілі, што наша прапанова па афармленні латарэйнага білета на беларускай мове будзе ўлічана з лета 2005 г.

Засілле расійскай мовы пануе ў нашай краіне і ў банкаўскай сферы. З нагоды працэдуры афармлення пластыкавых картак Таварыства звярнулася ў Беларусбанк, які ў адказ на наш запыт запэўніў, што дакументы для атрымання пластыкавай карткі будуць перакладзены на беларускую мову і распаўсюджаны ва ўсе ўстановы банка.

Станоўчы адказ мы атрымалі з Міністэрства адукацыі, куды звярталіся з нагоды распрацоўкі заданняў для тэставання толькі на расейскай мове. Пасля нашага звароту Міністэрства даручыла Рэспубліканскаму інстытуту кантролю ведаў падрыхтаваць на наступны навучальны год тэставыя матэрыялы на дзвюх мовах. На сакратарыяце быў прыняты зварот "Моладзь за беларускую мову".

Найбольш прыязна прымае і адгукаецца на прапановы Таварыства Міністэрства сувязі. У гэтым годзе, бадай упершыню, з нашай ініцыятывы можна пабачыць ў продажы віншавальныя паштоўкі з людскім надпісам, які мы прапанавалі: "З Калядамі" і "Са святам Божага нараджэння". Па просьбе ТБМ Белпошта запланавала выпуск паштовай маркі з выявай Лідскага замка, канверт Першага дня і спецгашэнне. Дарэчы, з клопатам аб працягу рэстаўрацыі Лідскага замка Таварыства звярталася ў Міністэрства эканомікі Беларусі. Лідская арганізацыя ТБМ была ініцыятарам збору сродкаў на аднаўленне помніка гісторыі.

Наш досвед сведчыць пра тое, што менавіта калектыўныя звароты грамадзян ва ўладныя структуры па пытаннях мовы – найбольш эфектыўная форма працы. Да прыкладу, з ініцыятывы моладзевага згуртавання "Вока" сакратарыят прыняў зварот да кіраўніцтва кампаніі Мабільныя ТэлеСістэмы па пытанні выкарыстання беларускай мовы ў аўтаматычнай службе сервісу абанентаў. Сабраныя і дасланыя кіраўніцтву МТС і Міністэрству сувязі сотні подпісаў абанентаў пад гэтым зваротам. І хоць кампанія, абараняючыся, спасылаецца на тое, што ў сваёй працы не парушае заканадаўства, але вымушана лічыцца з патрабаваннямі карыстальнікаў тэлефонаў і плануе стварыць беларускую версію афіцыйнага сайта кампаніі, а таксама вывучыць магчымасці распрацоўкі аўтаматычнай службы сервісу абанента на беларускай мове.

Па прапанове Таварыства Міністэрства інфармацыі даручыла выдавецтву "Народная асвета" вывучыць магчымасць выпуску кнігі сябра ТБМ В.К. Раманцэвіч "Роднае слова ў малюнках". Рукапіс прынята да друку. Яго выданне запланавана на 2005 год. Амбасады, што ў Беларусі, ужо замаўляюць для сябе па нашай прапанове па 30 асобнікаў гэтай унікальнай кнігі.

Сёлета нас парадавала Берасцейская гарадская Рада, якая спрычынілася да выдання "Альпенскага дыялектнага слоўніка". У ім змешчана 375 слоў. Адметныя словы вёскі Альпень сабралі вучні 7-9 класаў Альпенскай школы дзеля захавання моўных скарбаў пад кіраўніцтвам свайго настаўніка. Рэцэнзію на слоўнічак напісаў сябра Рады Уладзімір Содаль.

Сёння будзе дарэчы павіншаваць шэраг сяброў Таварыства з выхадам у свет новых кніжак: Фелікса Шкірманкова "Незвычайны каляндар", Уладзіміра Арлова "Каханак яе вялікасці", Сяргея Панізніка "Прысьвячэнні", "Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі", Генадзя Бураўкіна "Жураўліная пара", Алега Трусава "Падсумаванне", Алеся Петрашкевіча "Здрапежаная зямля", Эрнэста Ялугіна "Алжырская пастка".

Згодна з планам культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў зроблена наступнае.

Да 80-х угодкаў Васіля Быкава Таварыства выдала кішэнны каляндарык на 2004 г. (2000 асобнікаў) і на 2004-2005 навучальны год (1000 асобнікаў) з выявай народнага пісьменніка на фоне бацькоўскай прысады, а таксама плакаты фарматам А-4 і А-3. ТБМ удзельнічала ў зборы сродкаў на ўсталяванне помніка-валуна на магіле пісьменніка.

210-ым угодкам паўстання Тадэвуша Касцюшкі былі прысвечаны цікавыя публікацыі ў "Нашым слове", дзе друкавалася і п'еса Алеся Петрашкевіча "Развітанне з Радзімай". Таксама ў "Нашым слове" змешчаны публікацыі, прысвечаныя памяці беларускіх пісьменнікаў:

да 135-х угодкаў Ядвігіна Ш. (У. Содаль),

да 90-годдзя Валянціна Таўлая (Алесь Жалкоўскі, Міхась Маліноўскі),

да 130-х угодкаў Аляксандра Уласава (Уладзімір Содаль),

да 90-годдзя Язэпа Семяжона (Уладзімір Содаль),

да 80-годдзе Артура Вольскага (Ларыса Горцава, жонка паэта),

да 100-годдзя Паўлюка Труса (Мікола Мішчанчук),

да 210-х угодкаў Яна Баршчэўскага (Сяргей Панізнік),

да 95-годдзя Максіма Лужаніна (Пётр Краўчанка),

да 85-годдзя Віленскай беларускай гімназіі (Леакадзія Мілаш, Анатоль Сідарэвіч).

Праз "Наша слова" віншавалі з юбілеем сяброў Таварыства: Старшыню Алега Трусава – з 50-годдзем, галоўнага рэдактара газеты Станіслава Судніка – з 50-годдзем, сябра Рады, доктара гістарычных навук Анатоля Грыцкевіча – з 75-годдзем, доктара філалагічных навук Арсеня Ліса – з 70-годдзем, Кастуся Цвірку – з 70-годдзем, Зянона Пазняка – з 60-годдзем, Раісу Жук-Грышкевіч – з 85-годдзем, Станіслава Шушкевіча – з 70-годдзем.

З ініцыятывы Сябра рады Вольгі Іпатавай праведзены конкурс "Вытокі нашай незалежнасці", у якім прынялі ўдзел 52 школьнікі старэйшых класаў і студэнты з усіх, акрамя Гарадзенскай, абласцей нашай краіны і горада Менска.

Паспяхова праходзяць заняткі семінара "Я магу жыць лепей", якія вядзе першы намеснік старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч. Яна мае сталы склад зацікаўленых наведвальнікаў.

У траўні гэтага года завяршыў сваю працу гістарычны семінар. За час свайго існавання ён набыў вялікую папулярнасць сярод слухачоў. Таму Таварыства шукае сродкі і плануе аднавіць яго дзейнасць у 2005 годзе. Улічваючы запатрабаванасць семінара мяркуецца праводзіць яго не толькі для студэнцкай моладзі, але і для іншых катэгорыяў слухачоў.

З нагоды Міжнароднага свята "Дзень роднай мовы" на сакратарыяце была прынятая заява да грамадзян пад назовам "Свята роднай мовы", адбыўся малебень за родную мову ў храмах Менска, накіраваны ліст на БТ з прапановай правесці перадачы, прысвечаныя Дню мовы, змешчана публікацыя Уладзіміра Кошчанкі з нагоды свята ў "Нашым слове".

ТБМ мае шырокую вядомасць дзякуючы добрым стасункам з іншымі арганізацыямі, структурамі. Сёлета Таварыства брала ўдзел у Першым праваабарончым форуме, Пятым кангрэсе Асамблеі няўрадавых арганізацый у Беларусі (Дзяніс Тушынскі); у сустрэчы на высокім узроўні "Бежанцы, міграцыя і абарона", якая адбылася ў рамках выканання рашэнняў Жэнеўскай канферэнцыі 1996 г. па пытаннях бежанцаў, міграцыі і прадстаўлення прытулку (Сяргей Кручкоў).

У лістападзе месяцы адбылася нарада, арганізаваная Беларускай Асацыяцыі Журналістаў з удзелам прадстаўнікоў Еўрасаюза, на якой абмяркоўваліся альтэрнатыўныя законапраекты ў сферы сродкаў масавай інфармацыі, у прыватнасці ў сферы беларускага тэлебачання, распрацаваныя БАЖ. У абмеркаванні браў удзел Сяргей Кручкоў, які зараз рыхтуе прапановы ў законапректы па рэгламентацыі і абавязковым выкарыстанні беларускай мовы ў электронных СМІ. На нарадзе была падтрыманая прапанова былога старшыні Канстытуцыйнага Суда Міхаіла Пастухова падрыхтаваць альтэрнатыўныя законы "Аб мовах", "Аб правах нацыянальных меншасцяў" і правесці іх шырокае абмеркаванне з удзелам прадстаўнікоў Еўрасаюза. Запрашаю дасведчаных радцаў далучыцца да напісання гэтых законапраектаў.

Па запрашэнні камісіі ААН Сяргей Кручкоў удзельнічаў у міжнародных слуханнях па правах чалавека ў Беларусі, якія адбыліся ў Вільні 3 снежня, дзе выступіў з дакладам аб парушэнні лінгвістычных правоў грамадзян Беларусі.

Амбасады ЗША, Польшчы, Германіі, Славакіі, Францыі, Італіі, Ватыкана, АБСЕ заўсёды запрашаюць кіраўніцтва ТБМ на ўрачыстасці з нагоды нацыянальных святаў сваіх краін, прызначэння ці заканчэння тэрміну працы паслоў.

2 снежня Таварыства спрычынілася да арганізацыі вечарыны-прэзентацыі новага зборніка вершаў сябра Рады Генадзя Бураўкіна "Жураўліная пара", якая адбылася ў Доме літаратара. Дарэчы, пасля нашага звароту ў Галоўнае гаспадарчае ўпраўленне Кіраўніцтва справамі прэзідэнта зменшыўся ўціск на Саюз пісьменнікаў з боку уладных структур, за што выказаў удзячнасць Старшыня Саюза пісьменнікаў Алесь Пашкевіч. Праўда апошнім часам сітуацыя зноў пагоршылася, і значна. Пісьменнікаў не пускаюць у памяшканні, якія яны займаюць. Ці не пара нам зноў адрэагаваць на тыя папярэджанні, якія атрымаў Саюз пісьменнікаў?

Таварыства чуйна рэагуе на ўсе праявы наступу на беларускае ў нашай краіне. З гэтай нагоды на паседжаннях сакратарыята былі прынятыя заявы: "Навуковаму культурна-асветнаму цэнтру імя Ф. Скарыны" пагражае ліквідацыя", "Бярозка ў небяспецы", "Абаронім Дом літаратара".

Адной з важных і складаных дзялянак працы ТБМ з'яўляецца матэрыяльнае забеспячэнне. Вядома, што наша грамадская арганізацыя, адрынутая дзяржавай, выжывае і дзейнічае выключна на складкі і ахвяраванні сяброў і прыхільнікаў роднага слова. Сярод арганізацый і кіраўнікоў, хто разумее гэта і своечасова сплочвае сімвалічную суму складкаў, з прыемнасцю назаву такія суполкі як Крупская, Мядзельская, Слонімская, Чэрыкаўская, Расонская, Мікуліцкая, Валожынская, Смілавіцкая, педкаледжа №1 г. Менска, суполкі газеты "Народная воля", агенства БелаПАН, Ракасоўскую, Свіслацкую, Серабранскую, 31-й групы ліцэістаў, БНТУ, МТЗ (усе мінскія), а таксама арганізацыі: Лідская, Пінская, Пружанская, Гомельская абласная, Полацкая, Навапалацкая, Шаркаўшчынская, Аршанская, Асіповіцкая, Горацкая, Бабруйская, Салігорская, Слуцкая і некаторыя іншыя. Усе яны поўнасцю ці часткова сплацілі складкі за гэты год. Спадзяюся, што і іншыя структуры парупяцца і да канца года на рахунак ТБМ пералічаць належныя сродкі.

З нумара ў нумар "Наша слова" друкуе дабрадзеяў, што падтрымліваюць нас матэрыяльна. Прыемна, што сярод іх многія сябры Рады. Але найчасцей вы сустрэнеце прозвішчы Фелікса Шкірманкова, Антона Фурса, Васіля Петруковіча, Іны Казлоўскай, Міхася Тычыны, Алеся Чэчата і іншых. Вялікую прадзяку хачу выказаць нашым суайчыннікам у замежжы: Надзеі Барт-Юрэвіч, Івонцы Сурвіле, Раісе Жук-Грышкевіч, Марыі Сафро, Лёлі Міхалюк і іншым, якія стала падтрымліваюць Таварыства. Без перабольшання можна сказаць, што ўвесь цяжар па здабычы сродкаў на дзейнасць ТБМ ляжыць на плячах старшыні Алега Трусава.

Кожны год сакратарыят ТБМ дасылае лісты ўсім кіраўнікам суполак і арганізацый з аднымі і тымі ж просьбамі: сплаціць складкі, падпісацца на "Наша слова", удакладніць колькасны склад сяброў. На жаль, не ўсе адгукаюцца. Таму сёння я магу назваць толькі адну дакладную лічбу. За гэты год на паседжаннях сакратарыята ў шэрагі Таварыства былі прынятыя 203 сябры. А пра змены ў складзе суполак на канец гэтага года нам паведамілі нямногія. Сярод іх – Слонімская, Мікуліцкая, Крупская, Маладзечанская раённая суполкі. З гэтай нагоды, як вы памятаеце, на паседжанні мінулай, лютаўскай, Рады, я паставіў пытанне аб скасаванні шэрагу суполак і арганізацый, якія не выконваюць статутных патрабаванняў. Нагадаю іх: Жлобінская, Рэчыцкая, Бялыніцкая, Касцюковіцкая, Крычаўская, Старадарожская, Уздзенская, Акцябрская, Кобрынскія суполкі, Столінская. З тае пары прайшло 10 месяцаў, але ніякіх звестак ад іх мы не атрымалі. Болей за тое, сёлета да гэтага спісу можна далучыць яшчэ шэраг структур: Гарадзенскую гарадскую, Клецкую, Астравецкую, Смаргонскую, Карэліцкую, Ельскую, Рэчыцкую, Калінкавіцкую, Лёзненскую, Мёрскую. Мсціслаўскую, Хоцімскую, Бялыніцкую, Дубровенскую, Ушацкую. Таму я прапаную вырашыць лёс тых арганізацый, якія не выконваюць статутных патрабаванняў.

Мая справаздача, безумоўна, не можа быць вычарпальнай. Я спадзяюся, што намеснікі, старшыні камісіяў, кіраўнікі Бацькоўскага камітэту дапоўняць яе ў сваіх выступленнях.

*12 снежня 2004 г.*
*г. Менск*

# Не стала Кастуся Шышэі



**На мінулым тыдні перастала біцца сэрца шчырага беларуса, дзеяча беларускага нацыянальнага руху, змагара за беларускае нацыянальнае адраджэнне Кастуся Шышэі**

Нарадзіўся Кастусь Шышэя ў вёсцы Краскоўскія Горы 17 верасня 1922 года на Навагрудчыне.

Калі яму споўнілася 7 гадоў пайшоў у першы клас Шчорскаўскай школы, сем класаў якой скончыў у 1936 годзе, пасля чаго паўгода вучыўся на токара ў Навагрудку, а затым - у рамесным тэхнікуме, але давучыцца не ўдалося, пачалася вайна 1939 года

Пасля прыходу немцаў у 1941 годзе малады адукаваны беларус неўзабаве трапіў у поле зроку дзеячоў беларускага нацыянальнага руху, што пачаў разгортвацца на акупаванай немцамі тэрыторыі. Само сабой гэты рух не мог развівацца без некаторага супрацоўніцтва з немцамі. У кастрычніку 1943 года Кастусь Шышэя атрымаў павестку з'явіцца ў Негнявічы, і ад гэтага часу яго лёс цесна звязаны з Барысам Рагулям, беларускім эскадронам і, навогул, з беларускім войскам.

У 1944 годзе Шышэя разам з эскадронам аказаўся ў Дальвіцы ва Усходняй Прусіі, там сабраліся ўсе асноўныя дзеячы Беларускай незалежніцкай партыі. У Дальвіцы рыхтаваліся дыверсанты для закідвання за лінію фронту і ў кастрычніку 1944 года Кастусь Шышэя зноў аказаўся ў Беларусі. Але неўзабаве быў схоплены, асуджаны і адпраўлены ў сібірскія лагеры.

У Інце сустракаўся з Ларысай Геніюш.

У 1956 годзе быў вызвалены, хацеў выехаць у Польшчу, але на падставе таго, што ён беларус, не выпусцілі.

Воляй лёсу аказаўся ў Вільні, дзе і пражыў з жонкай Лёдзяй да самай смерці, цесна супрацоўнічаючы з беларускім культурным асяродкам, застаючыся ў перакананні, што беларускі выбар яго, хоць і быў цяжкім, але быў правільным.

*Паводле С. Шарэцкі*
***"Іх лёсы звязаны з Вільняй".***

Людміла Дзіцэвіч

# Ірландскі дзённік

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах)*

Я зусім не чакала, што Дублін такі прыгожы, велічны, мяккі і шыкоўны. Вуліцы чысцюткія, а муры дамоў нагадваюць рымскую архаіку. Кожная будыніна—гэта суцэльнае плеціва каштоўнасцяў: незвычайныя (аж дух захоплівае) дзверы, вокны, дахі, балкончыкі. Я пабачыла сусветна вядомыя віктарыянскія масты, паркі, двары. Часу было няшмат, пагэтаму паспелі наведаць толькі некаторыя будынкі.



***З Айлін Уэлан у каталіцкай катэдры***

***Старажытная пабудова ў Кілбэгене***

Пабывалі ў Гарадскім Холе—the City Hall, пабачылі каралеўскі заезны двор—the King's Inns, старажытны ірландскі банк, наведалі Фenіkспарк—the Phoenix Park, дзе знаходзіцца рэзідэнцыя Прэзідэнта Мэры МакКаліз.

Але найбольш мяне ўразіў Дублінскі універсітэт—Trinity College. Калі я ўвайшла ў бібліятэку, высозную, напоўненую да самага верху старажытнымі фаліянтамі, мне здалося, што неба прыціснула мяне да зямлі, і я адчула сябе мурашом, кузюркай, якая не ўмее ні чытаць, ні пісаць. Я не магла паварушыцца. А ўжо калі патрапіла ва універсітэце ў музей кнігі, пабачыла, як стваралася гэльская кніга, адчула яе данесены вякамі пах, паглядзела такія знаёмыя этапы напісання яе (як і беларускай кнігі), то я ўжо не змагла утрымлівацца ад эмоцый. І Айлін ўражана глядзела на мяне, звычайна такую стрыманую, як я вохкаю, скачу, нюхаю, чуць не цалую гэтыя старадаўнія кнігі. У такім жа захапленні хадзіла я каля аргана, размешчанага ў Экзаменацыйнай зале—the Examination Hall.

З вялікай ласкі Айлін наведалі мы Катэдральны касцёл XII ст.—Christ Church Cathedral. Я чуць не згубілася сярод шматлікіх турыстаў у вялізнай зале касцёла, напоўненай старажытнымі рэліквіямі: скульптурамі, абразамі, мемарыяльнымі знакамі, сімваламі. Я пабачыла магілы знакамітых людзей, у прыватнасці Данатана Свіфта, змагла памаліцца ў гэтай сусветнавядомай святыні. Айлін падаравала мне некалькі кніг пра катэдру, а таксама шыкоўны даведнік пра віктарыянскі Дублін.

Я засталася ўражанай не толькі ад пекнаты сталіцы. Мне прыемна было бачыць гонар ірландкі Айлін за сваю краіну. Ірландыя цягам доўгіх часоў змагалася за незалежнасць, дамаглася яе і цяпер прымае вандроўнікаў з усяго свету, дэманструючы захаваныя каштоўнасці. Гэтая непрыхаваная еднасць ірландскай нацыі кідаецца ў вочы кожнаму, хто вырас ва ўмовах суцэльнай калгаснасці, калі ніхто ні ў кога як бы не пытаўся, чыё гэта. Лічылася, што гэта ўсіхнае (нават выраз быў такі). Але потым многія беларускія скарбы аказаліся расейскімі і, на жаль, да гэтага часу. А многія панішчаныя з нашага маўклівага дазволу. Я мяркую, што адно толькі захаванне дублінскіх рарытэтаў у вялікай меры дапамагло ўзняцца ірландскаму народу і эканамічна, і палітычна. Сёння мы чытаем у прэсе звесткі пра тое, што па дабрабыце ірландцы знаходзяцца на першым месцы ў свеце, абагнаўшы за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў усе народы. Кожная нацыя мацуецца сваёй культурай.

*(Працяг у наст. нумары.)*

*Станіслаў Суднік*

# З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ ПА ЖЫЦЦІ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Дух рэвалюцыйнай сітуацыі вісеў у паветры. 25 кастрычніка я напісаў верш "Незалежнасць", які быў надрукаваны ў лістападаўскім нумары "Рокаша". Да скону Савецкага Саюза заставаліся лічаныя дні.

***НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ***

*Светлы дзень, светлы час. Незалежнасць*
*Лашчыць сэрцы, і душы, і лёс.*
*Светлы дзень, светлы час. Непазбежнасць*
*Нашай волі ідзе ад нябёс.*

*Мы акрылены светлай надзеяй*
*Нашых мараў штандары шумяць,*
*Нашых мрояў заранка ірдзее,*
*Нашых думак канём не дагнаць.*

*Мы паходняй святой непакоры*
*Разганяем бязвольнасці цвіль,*
*Мы ідзём на свабоды прасторы,*
*Мы выходзім са змроку магіл.*

*А навокал ваўкі з крумкачамі*
*Шчэрацць зяпы на нашу зямлю,*
*Мой народ, ты з пустымі рукамі*
*Не адстоіш свабоду сваю.*

*Ты адкрытай мазольнай далонню*
*Мусіш толькі даваць і даваць,*
*Талент, хлеб і дзяцей у прадонне,*
*У нахабную прорву кідаць.*

*Дык пастаў ты далонь тую рубам,*
*А шчэ лепей заціснi ў кулак*
*Скрыгатні хоць затворам, хоць зубам*
*І прыпомні, што ты быў ваяк.*

*Ад твае ваяўнічае славы*
*Шмат дрыжалі і Захад, і Ўсход,*
*Ты – нашчадак вялікай дзяржавы,*
*Мой забіты, гаротны народ.*

*Мы – сыны твайго вечнага болю,*
*Мы паўсталі ў апошні мо раз,*
*Мы заплацім за волю сабою,*
*Ты вазьмі, ты вазьмі толькі нас.*

*Ты вазьмі нашу смеласць і сілу,*
*Нашай кроўю свой сцяг акрапі*
*І хай нашыя будуць магілы*
*Для цябе, як памежжа слупы.*

*Каб ніколі, ніколі, ніколі*
*Ты не мог больш назад адысці*
*Са святое дарогі да волі,*
*З найцяжэйшай дарогі ў жыцці.*

Тым не менш частка служыла, грошы плацілі. Фінансавы абвал толькі пачынаўся.

Казахі даволі хутка скумекалі, што трэба ствараць свае войска. Неўзабаве галоўнакамандуючым супрацьпаветранай абароны Казахстана быў прызначаны генерал Алтынбаеў, якога мы добра ведалі. Ён нейкімі абяцаннямі аж з Камчаткі выцягнуў палкоўніка Шчукіна, былога першага намесніка нашай часткі, і гэты энергічны і талковы афіцэр дзеля кар'еры лёгка кінуў сваю Расію і перайшоў на службу да казахаў.

Праз некаторы час Шчукін прыедзе ў нашую частку агітаваць за пераход у казахскае войска, але сустрэне глухое непаразуменне. Ні адзін афіцэр нават не хіснецца ў бок Казахстана.

А пакуль што афіцэры чакалі палітычных рашэнняў, якіх не было. У гэты час рэзка падняўся аўтарытэт нашай школы. "Рокаш" выходзіў штомесяц. Адчуваючы перамены, мы дараблялі недаробленае. У снежні 1991 года я надрукаваў сваю першую кніжку "Пагоня за мову".




==========================================
Станіслаў Суднік. " Пагоня за мову."
Вершы і паэма " Літва."
Прывазерск. 1991 г.
Выдавецтва " РОКАШ ".
Выданне другое дапоўненае і папраўленае.
Наклад 40 экз. Шрыфт тэхнічны.
Кошт 3 талеры.
==========================================

8 снежня былі падпісаны Белавежскія пагадненні. Савецкага Саюза не стала, але палігон заставаўся на месцы. Нашая частка заўсёды была часткай маскоўскага падпарадкавання і да Казахстана адысці не магла, хоць і знаходзілася на тэрыторыі Казахстана. Не магла яна адысці да Казахстана і паводле нацыянальнага складу афіцэрскага корпусу. З 500 афіцэраў у нас быў адзін казах. Аднак у адпаведнасці з тым жа нацыянальным складам частку праблемна было падпарадкаваць і Расіі, хаця па факту каманды і загады аддавала Масква. Загады загадамі, але калі раптам пайшлі размовы пра прысягу, беларусы і ўкраінцы выказалі поўнае незадавальненне, і размовы адразу сціхлі.

У выхадных дадзеных пазначана, што гэта другое выданне. Фактычна першым выданнем была раздрукоўка падборкі вершаў у 20 асобнікаў. Цяпер жа былі дададзены вершы апошняга часу і паэма "Літва". Аб'ём склаў 84 старонкі фармату А-5. Кніжка была пераплецена. Увесь наклад склаў 40 асобнікаў. Класічны самвыдат. Цікава, што пастаўлены кошт у 3 талеры. Светлыя былі мары і спадзяванні.

У Беларусі ішлі працэсы ўсведамлення незалежнасці, але ўсё адбывалася не так, як нам хацелася, не так, як мы меркавалі. Па вялікаму рахунку мы пачыналі разумець, што "Маці-Радзіма" ў асобах камандавання Беларускай вайсковай акругі можа проста на нас забыцца.

*(Працяг у наст. нумары.)*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 13. 12. 2004 г. Замова № 2379.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1340 руб., 3 мес.- 4020руб.
***Кошт у розніцу:*** 290 руб. (у Менску - 310 руб.)